# БЕЛАРУСЫ Ў СВЕЦЕ

№8 (207)

жнівень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь • Міжнароднае грамадскае аб’яднанне “Згуртаванне беларусаў свету “Бацькаўшчына”

## У НУМАРЫ:



**Гэты выпуск “Беларусаў у свеце” выйшаў дзякуючы спрыянню Надзі і Янкі Запруднікаў і Лізы Ліхтаровіч**



# АЛЕНА МАКОЎСКАЯ І НІНА ШЫДЛОЎСКАЯ ЎЗНАГАРОДЖАНЫЯ МЕДАЛЯМІ БНР

22 жніўня сядзібу Згуртавання беларусаў свету “Бацькаўшчына” з урачыстым візітам наведаў заступнік старшыні Рады БНР Мікалай Пачкаеў.

Кіраўніцы Згуртавання Алене Макоўскай і старшыні Рады “Бацькаўшчыны” Ніне Шыдлоўскай за заслугі ў папулярызацыі беларускай мовы і культуры былі ўручаныя Медалі да стагоддзя БНР.

Ад імя Управы, супрацоўнікаў Згуртавання і калектыву кампаніі “Будзьма беларусамі!” мы з радасцю вітаем гэтае справядлівае рашэнне Рады БНР і шчыра віншуем шаноўных спадарыняў Алену і Ніну з заслужанай узнагародай!

**Управа МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”**

# МЕДАЛЁМ ДА СТАГОДДЗЯ БНР УЗНАГАРОДЖАНЫ АЛЕГ РУДАКОЎ

Медаль да стагоддзя БНР уручаны Алегу Рудакову, сябру Рады “Бацькаўшчыны”, шматгадоваму актывісту Таварыства беларускае культуры імя Яна Чэрскага ў Іркуцку.

Старшыня Рады БНР Івонка Сурвілла пракаментавала ўзнагароджанне:

“Алег Рудакоў – адзін з найбольш яскравых дзеячоў сучаснага беларускага замежжа, выбітны арганізатар і лідар, як робіць гіганцкую працу па папулярызацыі беларускай культуры ў Расіі. Ён абудзіў сярод шматлікіх жыхароў Прыбайкалля цікаўнасць да іхных беларускіх каранёў і да беларускае спадчыны ў гэтым сібірскім рэгіёне. Праца Алега Рудакова як нішто іншае спрыяе пабудове добрасуседскіх стасункаў між народамі Беларусі і Расіі”.

radabnr.org



**кніга**

# "ДАСТАТКОВА БЫЛО СКАЗАЦЬ ІМЯ ЗОРА – І БЫЛО ЗРАЗУМЕЛА, ПРА КАГО ІДЗЕЦЦА"

Лета скончылася, але знаёмства з адметным і цікавым не спыняецца. "Бібліятэка Бацькаўшчыны" прапануе цікаўнаму чытачу новую кнігу, якая распачынае падсерыю "Людзі эміграцыі". Такім чынам, саракавым нумарам у "Бібліятэцы" і першым у "Людзях эміграцыі" стаў том з назвай, якая гаворыць сама за сябе – "Зора Кіпель".

Гэтая кніга, укладзеная і грунтоўна пракаментаваная вядомымі даследчыкамі эміграцыі, гісторыкамі Наталляй Гардзіенка (куратарам падсерыі) і Лявонам Юрэвічам, у поўнай меры выконвае задачу новага выдавецкага кірунку нашага Згуртавання – выказванне слоў падзякі і ўшанаванне суродзічаў-беларусаў, якія сваё жыццё на чужыне прысвяцілі працы дзеля пашырэння беларушчыны.

Зора Кіпель, навуковец-бібліёграф і даследчыца беларускай сярэднявечнай літаратуры, укладальніца дзясяткаў кніг, аўтарка сотняў артыкулаў і ў пэўны перыяд галоўная рэдактарка газеты "Беларус", сорак гадоў адпрацавала ў Нью-Ёркскай публічнай бібліятэцы (нават узначальвала там Славянскі аддзел), і за гэты час зладзіла безліч беларускіх навуковых семінараў, канферэнцый і выставаў, а таксама істотна пашырыла беларускі кнігазбор гэтай установы і зрабіла ангельскі пераклад "Аповесці пра Трышчана". І гэта калі не браць да ўвагі яе самы актыўны ўдзел у грамадскім жыцці Беларуска-Амерыканскага задзіночання і справах Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, які да сёння ўзначальвае яе муж Вітаўт Кіпель.




Прапанаваны чытачам разгорнуты аповед пра жыццё і дзейнасць Зоры Кіпель заснаваны на яе ўласных тэкстах і ўспамінах, на ўспамінах яе паплечнікаў, а таксама на дакументах з Беларускага дзяржаўнага архіву-музея літаратуры і мастацтва – у кнізе змешчана каласальная колькасць архіўных фотаздымкаў. Акрамя гэтага, ладную частку выдання складаюць яе літаратуразнаўчыя, кнігазнаўчыя тэксты і падрабязная бібліяграфія.

Кніга "Зора Кіпель" – унікальная магчымасць лішні раз пераканацца, што даробак спадарыні Зоры больш чым проста варты, каб заняць свой пачэсны пасад у айчыннай інтэлектуальнай прасторы. І справа нашага чытацкага гонару – ад гэтага моманту рабіць усё, што ад нас залежыць, каб Зора Кіпель перастала быць навуковай знакамітасцю толькі ў Злучаных Штатах.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

**навіны**

# ЗНАЙШОЎСЯ СПОНСАР АДНАЎЛЕННЯ ПОМНІКА ФРАНЦІШКУ АЛЯХНОВІЧУ Ў ВІЛЬНІ

Помнікам беларускаму пісьменніку, драматургу і грамадскаму дзеячу Францішку Аляхновічу на віленскіх могілках Росы абяцае заняцца самкіраванне літоўскай сталіцы. Пахіленую пластыкавую скульптуру Аддзел аховы культурнай спадчыны Вільні ўключыў у другі этап рэстаўрацыі могілак.

Помнік, які стварыў скульптар Эдуард Падбярэзскі, усталявалі на Росах у 1989 годзе. Але з часам пластыкавая скульптура пачала зніршчацца. У 2008 годзе беларуская грамадскасць Вільні ініцыявала збор сродкаў на новы помнік, але сабраных сродкаў тады не хапіла. Беларусы Вільні звярталіся і да літоўскіх уладаў, але фінансаванне не ўдалося знайсці і там.

У ліпені пра аварыйны стан помніка Аляхновічу, які пахіліўся, напісала і дзяржаўная газета "Культура". Дыскусія аднавілася нанова.

Свабода спрабавала высветліць у амбасадзе Беларусі ў Вільні, ці далучылася б да аднаўлення помніка МЗС. Там нам паведамілі, што такіх магчымасцяў, у пасольства, на жаль, няма. Нашчадкі Аляхновіча, якія жывуць у Польшчы, на пытанне Свабоды адказалі, што гатовыя падтрымаць кампанію па зборы сродкаў, але самастойна аплаціць усе працы таксама не могуць.

Аднак днямі грамадская арганізацыя "Віленскі Беларускі музей імя Івана Луцкевіча" атрымала адказ з мэрыі літоўскай сталіцы на свой ранейшы ліст. У ім кіраўніца арганізацыі Людвіка Кардзіс пісала пра асобу Францішка Аляхновіча і стан ягонага помніку. Яна прасіла ўключыць рэстаўрацыю помніка ў план агульнага ўпарадкавання могілак Росы.

"Плануем уключыць помнік у II этап прац па ўпарадкаванні. Не магу гарантаваць фінансавання прац, бо працы II этапу будуць фінансавацца толькі за кошт сродкаў самакіравання", – гаворыцца ў адказе Аддзелу аховы культурнай спадчыны.

Старшыня "Віленскага Беларускага музея імя Івана Луцкевіча" пракаментавала адказ віленскага самакіравання.

"Верым, што ўсё атрымаецца. Перадаём эстафету ў Рэспубліку Беларусь. Спадзяемся, што там знойдуцца тыя, хто ў стане дамагчыся з'яўлення вуліц імя Аляхновіча ў Мінску і Віцебску".

Францішак Аляхновіч – беларускі драматург, тэатральны дзеяч, публіцыст, пісьменнік. Менавіта ён стаў аўтарам першага твора сусветнай літаратуры пра сталінскія рэпрэсіі – дакументальнай аповесці "У кіпцюрах ГПУ", які апісвае лагер з пагляду арыштанта. Яго называюць "бацькам найноўшай беларускай драматургіі", адным з заснавальнікам беларускага тэатразнаўства.

У сакавіку 1944 года Аляхновіча застрэлілі ва ўласнай кватэры ў Вільні. Дагэтуль невядома дакладна, хто забіў пісьменніка.

У 2013 годзе ПЭН-цэнтр і "Радыё Свабода" супольна заснавалі прэмію Францішка Аляхновіча за творы, напісаныя ў зняволенні.

**Дзмітры Гурневіч,**
**svaboda.org**

# ПОЛЬСКІ ДЭПУТАТ ЗАКЛІКАЎ ЛУКАШЭНКУ ПАСПРЫЯЦЬ МІЛЬЁНУ БЕЛАРУСАЎ



Польскі дэпутат, намеснік старшыні Камісіі замежных спраў Сейма Роберт Тышкевіч у сетцы "Facebook" прывітаў пашырэнне бязвізавай зоны для замежнікаў у Беларусі на мяжы з Польшчаю.

Разам з тым палітык заклікаў кіраўніка Беларусі, нарэшце, увесці малы памежны рух паміж краінамі.

"Дзевяць гадоў чакаем вашай згоды ў справе малога памежнага руху. Зрабіце, нарэшце, так, каб мільён беларусаў мог вольна выязджаць у Польшчу", – заявіў дэпутат.

Польскі бок выступіў з прапановаю падпісаць пагадненне аб мясцовым прымежным руху ў лютым 2008 года. Праз два гады, у лютым 2010-га, дамова была падпісаная міністрамі замежных спраў Беларусі і Польшчы.

У траўні 2010 года польскі парламент ратыфікаваў гэты дакумент, пасля яго падпісаў кіраўнік дзяржавы Браніслаў Камароўскі. Беларускі парламент ратыфікаваў дамову ў лістападзе таго ж года, а 1 снежня дакумент быў падпісаны Аляксандрам Лукашэнкам.

Тым не менш, беларускі бок так і не прыступіў да рэалізацыі дамоўленасцяў з Польшчаю.

Ідэя малога памежнага руху простая: жыхары памежных тэрыторый Беларусі і Польшчы маюць свабодна перасоўвацца праз мяжу. Віза непатрэбная, патрэбны толькі адмысловы дазвол, які даецца пры наяўнасці пашпарта.

**МГ, "Белсат"**

навіны ЗБС "Бацькаўшчына"

# ЯК БЕЛАРУСКІЯ ВЕРШЫ ЗАГУЧАЛІ ПА-ІТАЛЬЯНСКУ

20 жніўня ў Мінску адбылася незвычайная імпрэза – беларускія вершы, сучасныя і класічныя, загучалі на італьянскай мове. Дзякуючы намаганням дацэнта кафедры рускай мовы і лінгвістыкі Балонскага ўніверсітэта Ларысы Пуцылевай ствараецца адмысловая анталогія беларускай паэзіі ў перакладах на беларускую мову.

На імпрэзу, арганізаваную МГА "ЗБС "Бацькаўшчына" і ГА "Саюз беларускіх пісьменнікаў", акрамя аматараў паэзіі завіталі і творцы, вершы якіх прадстаўленыя ў кнізе – Міхась Скобла, Анатоль Вярцінскі, Адам Глобус, Аксана Данільчык, Віктар Жыбуль і іншыя. Мы паразмаўлялі са спадарыняй Пуцылевай пра беларускую культуру ў Італіі і праблемы перакладу.

### Пра еўрапейскую славістыку і беларускую мову

Славістычныя арганізацыі ёсць ва ўсіх краінах Старой Еўропы. У Італіі шмат вывучаюць рускую мову, культуру і літаратуру, але ёсць і кафедры іншых славянскіх краін, якія займаюцца літаратурамі Польшчы, Славеніі, Балгарыі. У апошнія гады з'явілася кафедра ўкраінскай мовы і літаратуры, адразу ў некалькіх універсітэтах. На жаль, беларуская мова так шырока не вывучаецца – адмысловых кафедраў няма.

На італьянскую мову перакладзеныя раманы і апавяданні Быкава, пасля Нобелеўскай прэміі выдадзеныя ўсе раманы Святланы Алексіевіч. Калі я пачала займацца даследаваннямі беларускай літаратуры, то знайшла адзіную італьянскамоўную манаграфію, якая называлася "Беларуская літаратура". Яе выдаў Джузэпэ Месіна ў 1950 годзе. У яе ўвайшла літаратура ад часоў Купалы, Коласа, Цёткі і да 40-х гадоў. Гэтая манаграфія – шмат у чым проста перадрук падручнікаў савецкага кірунку, але ёсць там і іншыя матэрыялы, замежныя даследаванні, напрыклад, згадваецца Наталля Арсеннева. Што цікава, спадар Месіна пераклаў фрагменты "Новай Зямлі", некалькі вершаў Багдановіча і Купалы, у прыватнасці "А хто там ідзе?", перакладзеныя цалкам, чаго ў манаграфіях практычна не бывае. Пасля гэтай кнігі даследаванняў беларускай літаратуры не выходзіла.

### Пра ўласныя даследаванні

Я мінчанка, нарадзілася і вырасла ў Беларусі, таму заўжды хацела прасоўваць беларускую культуру. Упершыню з дакладам пра беларускую літаратуру выступіла на З'ездзе славістаў у Македоніі ў 2008 годзе, там пазнаёмілася з людзьмі з беларускай Акадэміі навук. Насамрэч у Беларусі ідзе вялікая праца па даследаванні культуры, і шкада, што на іншыя мовы гэта не перакладаецца.

Мая спецыялізацыя па працы – руская мова і лінгвістыка, а даследаванні мусяць быць звязаныя з прадметам, таму для стварэння анталогіі беларускай паэзіі давялося шукаць іншыя шляхі выдання.

### Як стварыць беларускую анталогію для італьянцаў

Я даўно марыла стварыць кнігу, прысвечаную беларускай паэзіі. Пяць гадоў таму атрымала прапанову зрабіць дадатак да італьянскай энцыклапедыі "Трэкані", куды дадатковыя звесткі ўносяць кожныя пяць гадоў. Дадатак тычыўся менавіта беларускай літаратуры. Тады я тры месяцы прапрацавала ў Мінску, мне вельмі дапамог літаратуразнаўца, член-карэспандэнт НАН Сцяпан Лаўшук. Вельмі дапамагла анталогія Міхася Скоблы "Краса і сіла". Паэтка і супрацоўніца італьянскай амбасады Аксана Данільчык дапамагла зарыентавацца ў сучаснай паэзіі.

Першай, да каго я звярнулася з ідэяй анталогіі, была італьянская амбасада ў Мінску, адзін з намеснікаў амбасадара, спадар Паола Таніні, адказаў, што дапамагчы яны не могуць, бо іх задача – прасоўваць італьянскую культуру ў Беларусі. Беларуская ж амбасада ў Італіі ўвогуле прагінаравала зварот, чым вельмі мяне здзівіла. Тады спадар Таніні падказаў звярнуцца да кіраўніцтва вобласці, у якой я жыву, бо сувязяў з Беларуссю вобласць мае багата: пачынаючы ад дапамогі дзецям Чарнобыля да медыцынскай і сацыяльнай працы на Гомельшчыне. І менавіта яны змаглі дапамагчы і стварыць кнігу беларускай паэзіі на італьянскай мове.

### Як адабраць 25 беларускіх паэтаў

Беларускую літаратуру часцяком называюць маладой, але гэтае слова варта браць у двукоссе, таму што адлік можна весці з лацінамоўнай, польскамоўнай літаратуры, кніг на старабеларускай мове і гэтак далей. Для анталогіі мы адабралі 25 паэтаў, і гэта было складана: на кожнага аўтара толькі два вершы, апроч Купалы, Коласа і Багдановіча, гэта постаці надта важныя, таму яны прадстаўленыя трыма-чатырма творамі. Гэта класічныя вершы: "А хто там ідзе?", "Спадчына" і гэтак далей.



На ўсю працу мы мелі ўсяго паўтара месяца. Наша каманда – гэта Сяргей Логіш, дацэнт кафедры італьянскай мовы БДУ, перакладчыкі Паола Гальвані, Святлана Каралёва з Балоны і Майя Галаванава з Мілана.

Абраць паэтаў надзвычай складана. З "савецкага" перыяду мы ўключылі Максіма Танка, Петруся Броўку. Але сканцэнтравацца хацелі на постсавецкім перыядзе.

Шмат у чым наш выбар неідэальны, але патрэбнага матэрыялу бракавала – актыўна выкарыстоўвалі "Красу і сілу" і акадэмічную "Анталогію беларускай паэзіі", вершы маладых аўтараў бралі з сеціва. Але ў выніку атрымалася вельмі цікавая і разнастайная падборка: як кажуць некаторыя чытачы, вершы з нашай анталогіі не менш цікавыя за сучасную італьянскую паэзію.

У беларускай літаратуры ў Італіі будучыня ёсць – аматарам паэзіі такая кніга будзе даспадобы. Але тут варта ўлічыць, што паэзія на літаратурным рынку ўвогуле "ідзе" горш.

### Цяжкасці перакладу

З перакладамі было вельмі складана. Напрыклад, калі спадар Месіна перакладае Янку Купалу, які пісаў народным, простым стылем, "высокай" італьянскай лексікай з доўгай страфой, то атрымліваецца зусім іншы твор. Калі Майя Галаванава перакладала "Пахне чабор", атрымалася захаваць рыфму, бо ў перакладах праблема рытму і рыфмы вельмі вострая. У італьянскай мове радок даўжэйшы, а галосных літараў удвая меней.

Другая цяжкасць – змест. Калі перакладаеш "Пагоню" Багдановіча, трэба зрабіць зноску, дзе ўвогуле растлумачыць, што такое "Пагоня" і што гэты сімвал у сабе нясе. Але перакладчыца Святлана Каралёва здолела адным радком перадаць сутнасць сімвала проста ў тэксце.

Ці "клёкат бусла" – шмат слоў, якія адказваюць за гук, а вось аналага "клёкату" няма. І ў італьянскай версіі даводзіцца ставіць тры словы замест аднаго.

Але з улікам таго, як мала часу ў нас было на падрыхтоўку, мы зрабілі сапраўдны цуд.

**Мікалай Левертаў,**
**budzma.by**




Віктар Жыбуль, Сяргей Логіш, Леанід Дранько-Майсюк, Аксана Данільчык, Ларыса Пуцылева, Анатоль Вярцінскі, Анастасія Комлік-Ямаціна, Міхась Скобла.

гутарка

# ГІСТОРЫК ЛЕАНІД ЛЫЧ РАСКАЗАЎ ПРА ПРАЦУ Ў ЛАГЕРЫ ПАЛІТВЯЗНЯЎ, ТРОХ ЖОНАК І СЫНА ШАМІЛЯ

"Я доўга думаў, пра што ж мы з вамі будзем размаўляць, – сказаў Леанід Міхайлавіч і працягнуў мне паперку, на якой акуратным почыркам былі выведзены штук дваццаць пытанняў, у асноўным пра палітыку, гісторыю, Саюзную дзяржаву і гэтак далей. – Пажадана, каб размова пайшла ў такім рэчышчы...".



У мяне былі і свае пытанні, якія я рыхтавала да інтэрв'ю, але яны не спатрэбіліся ўвогуле!

Доктар гістарычных навук Леанід Лыч пачаў паказваць свае фотаздымкі, і размова неяк сама сабой пайшла выключна пра каханне, страты і пачуцці. Як праляцелі тры гадзіны, я нават і не заўважыла.

### Апошні шлюб

– Вось глядзіце: я – курсант Мінскай афіцэрскай школы Міністэрства ўнутраных спраў СССР.

**– Прыгожы! Відаць, дзяўчыны да вас заляцаліся...**

– Усяк было. А тут ужо афіцэр.

**– Ален Дэлон проста! Не шкадуеце, што так і не зрабілі міліцэйскую кар'еру? Можа, цяпер генералам былі б!**

– Не шкадую, бо не люблю камандаваць. А вось на здымку мая другая жонка, Еўфрасіння, сібірачка, мы разам пражылі 54 гады.

**– Колькі разоў вы былі жанаты?**

– Тройчы. Але пра сваю цяперашнюю жонку я не буду гаварыць, сямейная тайна. Яна на 25 гадоў маладзейшая за мяне і крыху хваравіта ўспрымае, калі я пра яе распавядаю. Наш шлюб – гэта тайна. І я ніколі не бяру на сябе ініцыятыву распавядаць пра нашы адносіны, хаця яны і надзвычай цёплыя.

**– Ведаю, што вы нават з сябрамі раіліся, ці варта жаніцца пасля 80 гадоў...**

– Як прыстойны мужчына, я пайшоў на заключэнне шлюбу. Мне хацелася, каб мая жонка мела ўсе правы на маю спадчыну. І я ёй сказаў: усё, чым я валодаю, – тваё. Калі людзі ў грамадзянскім шлюбе жывуць – гэта зусім не тое. І каб на працы пальцам не паказвалі, і каб не было лішніх размоў, з кім жыве, і каб дзеці былі спакойныя... Мы афармілі шлюб. Я лічу, што гэта правільна, прыстойна.

**– Матэрыяльныя справы – гэта адно. А каханне? Не з-за кватэры ж яна з вамі разам!**

– Каханне – не галоўнае. А вось павага з яе боку да мяне ёсць, прычым у самай вялікай ступені. Жонка – беларускамоўная, і мова ў яе найчысцейшая! Людміле радасна са мной жыць, ёй падабаецца, чым я займаюся. Цяпер яна на возера пайшла разам за сваёй унучкай.

**– Яна мае дзяцей ад першага шлюбу?**

– Так, дваіх сыноў. Аднаму гадоў пад сорак, ён пакуль не жанаты, а другі, маладзейшы, мае дваіх дзетак. І яна дапамагае яго сям'і. Мы разам з Людмілай жывём ужо восем гадоў. Дзеці яе да мяне таксама вельмі прыхільна ставяцца. І ўнукі. Яны, дарэчы, вельмі добра ўхопліваюць беларускія словы, у іх наогул закладзена нейкая трывалая беларуская аснова. Аднойчы жончынаму трохгадоваму ўнуку сказаў: "Дзе ж ты так запэцкаў шкарпэткі?" Дык ён адразу ўхапіўся за гэтае слова і дагэтуль яго ўжывае. Я цалкам задаволены сваім жыццём. Вельмі шаную аўтарытэт сваёй жонкі. Хаця пры гэтым у нас можа ўзнікаць і штосьці складанае ў адносінах. Аднак, відаць, пра гэта вам лепш з ёй паразмаўляць...

### Каханне на ўсё жыццё

**– Са сваёй другой жонкай Еўфрасінняй вы пражылі большую частку жыцця...**

– Так, больш за паўстагоддзя былі разам. А потым яе не стала.

**– Хварэла?**

– У 40 гадоў нешта з ёй сур'ёзнае здарылася... Думаю, гэта быў першы інсульт. Яна адляжалася з тыдзень, а потым устала з ложка. Але з таго часу, з 1971 года, я не бачыў яе паспраўднаму здаровым чалавекам. Праўда, яна і працавала. І мы шмат падарожнічалі. Мы пазнаёміліся ў Башкірыі, там жыла яе радня. Я ёй казаў: табе трэба рызыкаваць сваім здароўем! І вазіў яе і ў Ашгабат, і ў Алмаату, і ў Ташкент, і ў Душанбэ, і ў Фрунзэ! Справа ў тым, што ў той час я цалкам расчараваўся ў сваёй праблематыцы як навуковец (займаўся даследаваннем рабочага класа, рухам за камуністычную працу, цыгуначным транспартам) і таму пераключыўся на нацыянальныя пытанне. І вырашыў не толькі кнігі чытаць, але перш за ўсё пабываць ва ўсіх нацыянальных рэспубліках, каб паглядзець, як яны развіваюцца. Усе саюзныя рэспублікі трымалі сваю нацыянальную ідэю на вышыні, і толькі Беларусь уласным нацыянальным жыццём распараджалася так, як хацела Масква. Чужыя рэспублікі зрабілі мяне такім здаровым нацыяналістам і інтэрнацыяналістам. І я заўсёды ў такія паездкі браў жонку. Яна вельмі добра пераносіла змену клімату, нават сама радавалася! Спачатку паехалі ў Туркменістан, бо мне вельмі хацелася пабачыць у Ашгабаце міліцэйскую школу, якую скончыў. Мы кожны год вандравалі па Савецкім Саюзе. Не былі толькі ў Эстоніі і Арменіі.

**– А дзеці ў вас ёсць ад гэтага шлюбу?**

– Няма. Можа, нават і з-за мяне... Я працаваў у Башкірыі і недзе ў 1957 годзе зразумеў, што павінен вярнуцца Беларусь. Напісаў лісты ў сваю школу, і райана і аблана. Мне адусюль заяўлялі, што працы няма. Але ў 1958 годзе мы прыехалі ў Беларусь. У Мінску тады было вельмі цяжка прапісацца. І мы вырашылі ў Башкірыі не заключаць шлюб, бо, калі ты адзін, лягчэй прапісацца. У той сітуацыі пажадана было не мець і дзяцей. І калі жонка даведалася, што зацяжарала, без майго ведама пайшла да нейкай шаптухі, тая зрабіла няякасны аборт. Пасля гэтай няўдачы трапіла ў клініку, ёй сказалі: вам так нашкодзілі, што наўрад ці ў вас будуць дзеці... Тут і мая віна, і яе... Але калі паважаеш адзін аднаго, дык ёсць дзеці альбо няма – гэта на сямейнае шчасце ніяк не ўплывае. Я побач з жонкай быў надзвычай шчаслівым чалавекам. Яна мне, між іншым, не раз казала: "Лёня, я пайду лячыцца". Яна ў Мінску працавала загадчыцай дзіцячага садка. Яе вельмі паважалі, асабліва мясцовыя выхавацелькі. Ведаючы пра яе праблему, нават рэкамендавалі мясцовых шаптух, але яна не пайшла. А прафесійныя дактары ёй нічым дапамагчы не маглі... Нам казалі: вазьміце каго-небудзь на выхаванне. Але мы на гэта не пайшлі. Не ведаю, можа, гэта і памылка... Баяліся: а ці будуць у мяне бацькоўскія, а ў яе мацярынскія пачуцці да гэтага дзіцяці? Калі сумняваешся ў гэтым, дзіця шчаслівым не будзе. А паколькі мы з жонкай займаліся навукай, у нас ніколі не ўзнікала пытанне пра дзяцей...

**– Ведаю, што жонка сур'ёзна паўплывала на вашу грамадзянскую пазіцыю. Гэта ж яна зрабіла вас нацыяналістам?**

– Яна дзіўны чалавек... Не ведаю, адкуль у яе бралася шчырая любоў да ўсяго беларускага. Калі працавала ў садку, прасіла, каб з ёй размаўлялі па-беларуску. Гаварыла, што ад мамы, карэннай сібірачкі, чула многа слоў, падобных на беларускія. Магчыма, таму яе так цягнула да бела-

рускага. І калі я пайшоў у аспірантуру, яна таксама без майго ведама паступіла ў завочную аспірантуру, датэрмінова здала кандыдацкі мінімум. Напісала цудоўную дысертацыю пра развіццё дашкольнага выхавання ў Беларусі ў першую пасляваенную пяцігодку, абаранілася. У 1970-я гады яна стала ўключаць у праграму па развіцці мовы і беларускія тэксты. Спачатку бацькі абураліся, але яна іх пераконвала. Еўфрасіння напісала артыкул у "Дашкольнае выхаванне СССР" пра тое, як у дзіцячых садках адбываецца двухмоўе. Яе засыпалі лістамі з усяго Саюза, нават з Чукоткі пісалі, дзе паміралі нацыянальныя мовы! Пазней мы разам сталі думаць пра доктарскія. Жонка абаранілася першай...

**– А калі яна захварэла?**

– Пачынаючы з 1992-га прыкладна 4–5 месяцаў на год знаходзілася на бюлетэні. І так працавала недзе да 2002 года. А потым здарыўся інсульт. Па хаце магла хадзіць толькі з кіёчкам пры маёй падтрымцы. А затым гадоў пяць ляжала выключна ў ложку.

**– Вы яе даглядалі?**

– Я яе вельмі паважаў, кахаў, любіў – больш за ўсё на свеце! І вырашыў, што ўсё зраблю сам, каб ёй было добра. Хаця не ўмеў ні памперсы мяняць, нічога! Але навучыўся... І калі лекар прыходзіў, то не раз казаў: "Божа, няўжо вы ўсё гэта самі робіце? І да вас жа прыйдзеш – нідзе нічым не пахне, бездакорная чысціня!" Ніякая санітарка так не дагледзіць, як я сам. І па жонцы адчуваў, як для яе ўсё гэта важна. І, ведаеце, можа, дзякуючы гэтаму яна яшчэ столькі пражыла. Я яе і ў ванную адвяду, і памыю. Толькі калі яна ўжо не магла з маёй падтрымкай да ванны дайсці, і трэба было яе ў ложку памыць, я ўжо запрашаў спецыялістаў – за грошы. Да яе рэгулярна прыходзіла лагапед. Гэта было самае цяжкае для жонкі, што мову адняло. Моцна перажываў і я. Мы з ёй пяць гадоў не размаўлялі. Я гавару, а яна маўчыць... Але да канца жыцця яна была пры сваім розуме. Яе цела крэміравалі – гэта была яе воля. Разы тры-чатыры на год абавязкова прыязджаю да яе.

**– Ведаю, што ў памяць пра жонку вы выдалі кніжку...**

– Так, "Рускі прафесар на ніве беларускага нацыянальнага культурнага адраджэння". Гэта, відаць, самы лепшы помнік па дарагім для мяне чалавеку.

### Пачуцці па-татарску

**– Леанід Міхайлавіч, але ж вы тройчы былі жанаты. Чаму ваш першы шлюб выдаўся кароткім?**

– Мы ажаніліся ўлетку 1952 года. Гэты было ў Сібіры Іркуцкай вобласці. Я тады працаваў у лагеры палітзняволеных аператыўным упаўнаважаным, а яна там была лекарам (скончыла Уфімскі медыцынскі інстытут). Я быў вельмі хілы здароўем, у мяне не было апетыту – літаральна прымушаў сябе есці. І таму радаваўся, што жанюся з урачом. І Серафіме быў гонар – замуж за афіцэра! А я быў прыгожы, элегантны, інтэлектуальны. Многіх здзівіла, што калі я прыехаў, то прывёз з сабой не гару багацця, а радыёпрыёмнік на шасці батарэях. Прычым кожная важыла прыкладна па два кілаграмы! Мне два чалавекі дапамагалі яго цягнуць. Мяне лічылі адным з самых адукаваных афіцэраў. І многія дзяўчыны паглядалі на мяне... Жонка па нацыянальнасці была татаркай, на два гады старэйшая за мяне. Я лічыў, што дзейнічаю ў духу сталінскай тэорыі зліцця нацый. Але, шчыра кажучы, моцнага кахання ў мяне не было. Больш за ўсё быў страх за свой лёс. У мяне абавязкова павінна была быць жонка, з ёй я буду адчуваць сябе больш упэўненым. Калі разабрацца, страх за жыццё моцна сапсаваў мне будучыню... Я ніколі не думаў, што ў той дзяўчыны, якую я кахаў у Мінску, былі да мяне такія глыбінныя пачуцці. Яна скончыла музычную школу, паступіла ў кансерваторыю, мы сталі сустракацца, калі я быў курсантам школы МУС. Я не думаў, што яна мяне кахае. Разважаў так: яна стане вядомым музыкантам, а я буду звычайным лейтэнантам. Я не быў кар'ерыстам. Калі апынуўся ў лагеры для палітзняволеных, мы працягвалі перапісвацца. Але я цвёрда вырашыў: ні за што не сарву яе з Мінска і не сапсую ёй кар'еру, каб яна гібела ў Сібіры. І без яе ведама ажаніўся з татаркай Серафімай. Але потым напісаў: "Дарагая Тамара, прашу спыніць перапіску, я стаў жанатым чалавекам, ведаў, што Сібір – месца не для цябе". Я атрымаў ад яе адказ і не мог стрымаць слёз, калі чытаў! Яна столькі цёплых слоў мне нагаварыла! Пісала, што ў будане начавала б, абы толькі быць са мною разам. Я паказаў жонцы гэты ліст, а яна сказала: "Лёня, ужо позна – я זацяжарала..." Калі б яна гэтага не сказала, я, напэўна, перадумаў бы! Бо нават не ведаў, што мяне так кахае студэнтка кансерваторыі. Але было дзіця... І я не ведаю, як тую цяжкую часіну перажыў... Я яшчэ пару пісем Тамары напісаў, і мы назаўжды разышліся. Можа, вы ў гэта не паверыце, але раней кахалі зусім інакш, чым цяпер. Я не зайздрошчу цяперашнім маладым людзям. Мы не цалаваліся, я не дазваляў сабе вышэй локця дакранущца да яе рукі. Мне хапала таго, што яе кісць трымаю. Гэтага было дастаткова для самых моцных узаемных пачуццяў! Мы часта заставаліся дома ўдвух, адзін на адзін, і ніколі бацькі не падумалі, што паміж намі магло адбыцца такое, што дазволена рабіць толькі пасля заключэння шлюбу. Такая была чысціня адносін!

**– Дык чаму распаўся ваш шлюб з татаркай?**

– Яна мяне страшэнна кахала. У яе была хворая маці, якая жыла ва Уфе і прасіла, каб дачка з Сібіры вярнулася на радзіму. Пасля смерці Сталіна сталі скарачаць лагерныя кантынгенты, а разам з імі і службоўцаў. Пасля таго як уступіў у шлюб, я не стаў здаравейшым. У мяне не хапала 10 кілаграмаў вагі да нармальнай. І мяне нават камісоўвалі як дыстрофіка. Мы прыехалі ва Уфу. Я там тры месяцы шукаў працу. Урэшце цешча ўладкавала мяне на працу эканамістам ў Башлесхімпрамсаюз, кіраўнік якога, дарэчы, быў з Беларусі. Потым я паступіў у педінстытут на гістарычны факультэт. Гэта былі хрушчоўскія часы, якія паклалі пачатак нацыяналізму. Мая жонка была вельмі паважаная сярод татар – як лекар. І ўсе вельмі здзіўляліся, што ў яе муж – не татарын, што яна сапсавала нацыянальную кроў. А дзіця ў нас нарадзілася чыста татарскае. Я даў яму імя Леанід – ім гэта не спадабалася. І вось на хвалі нацыяналізму сваякі пачалі раіць жонцы, што наш шлюб трэба скасаваць, а ёй выйсці замуж за свайго, за татарына. Аднойчы жонка паставіла мяне перад фактам, што мы павінны разысціся, бо ёй не даюць праходу, адмаўляе ў сваяцтве ўся радня, якая не хацела бачыць мяне ў сваім асяроддзі. Толькі адна яе цётка казала: "Сіма, такога мужа ты больш ніколі не знойдзеш, кідай усю радню, але не разводзьцеся". Але мы разышліся...

**Пра тое, як склаўся далейшы лёс Леаніда Лыча, чытайце ў працягу гутаркі на сайце zbsb.org**

**Марына Коктыш, Народная воля**

**навіны**

# У КАСТРЫЧНІКУ Ў НЬЮ-ЁРКУ АДСВЯТКУЮЦЬ 70-ГАДОВЫ ЮБІЛЕЙ БЕЛАРУСКА-АМЕРЫКАНСКАГА ЗАДЗІНОЧАННЯ (БАЗА)

70 гадоў таму, 31 ліпеня 1949 года, у Нью-Ёрку адбыўся арганізацыйны сход, на якім было ўтворана Беларуска-Амерыканскае Задзіночанне (БАЗА). Эмігранцкай арганізацыі, якая ўжо праз год атрымала афіцыйнае прызнанне амерыканскіх уладаў, было наканавана стаць найбуйнейшай і найважнейшай у беларускім руху Злучаных Штатаў Амерыкі. Аўтарытэтны беларускі даследчык Зміцер Саўка, аўтар кнігі, прысвечанай гісторыі першых пяці дзясяткаў гадоў БАЗы (кніга сёлета пабачыла свет у серыі "Бібліятэка Бацькаўшчыны"), небеспадстаўна ўважаў даробак Задзіночання ні многа ні мала за "беларускую цывілізацыю ў Амерыцы".

Мэтавая дзейнасць БАЗы прадугледжвае не толькі працу па даследаванні, захаванні і развіцці беларускай культуры, але таксама спрыянне ў справе дэмакратычнага развіцця Беларусі. Кіруючыся закладзенымі падчас стварэння арганізацыі прынцыпамі, БАЗА, няспынна інфармуючы грамадства і ўлады ЗША аб стане рэчаў у Беларусі, культурных здабытках беларусаў і іх унёску ў амерыканскае грамадства, аказвае яшчэ і заўважны палітычны ўплыў. Хрэстаматыйным прыкладам, да прыкладу, з'яўляецца газета "Беларус", выдаваная БАЗА з 1950 года, – савецкая прэса мусіла з ёй лічыцца і завочна палемізаваць, не ратавала нават "жалезная заслона" (падрабязней пра гэта можна прачытаць яшчэ ў адной сёлетняй кнізе "Бібліятэкі Бацькаўшчыны", з падсерыі "Спадчына: Агледзіны", і тамсама заадно пазнаёміцца з нестарэючай аналітыкай са старонак газеты).

БАЗА сёння – гэта семдзесят гадоў адданага служэння мастацтву і навуцы, сотні праведзеных культурніцкіх і палітычных акцый, восем вялікіх аддзяленняў у Нью-Ёрку, Вашынгтоне і пяці штатах, а таксама шматлікія гурткі ў гарадах, дзе няма дастатковай колькасці сяброў арганізацыі для заснавання аддзялення. А таксама безліч планаў.

13 кастрычніка ў грамадскай залі сабору Св. Кірылы Тураўскага ў Брукліне адбудуцца ўрачыстасці з нагоды 70-гадовага юбілею Беларуска-Амерыканскага Задзіночання. Падрабязнасці будуць вядомыя пазней.

**Інфармацыйны цэнтр МГА "ЗБС "Бацькаўшчына"**

гутарка

# ЯК ПРАЎНУЧКА "ВОРАГАЎ НАРОДУ" З СІБІРЫ РАЗБУДЗІЛА Ў САБЕ БЕЛАРУСКУ

Воля Галанава – захавальніца і прапагандыстка беларускай культуры і мовы ў Прыбайкаллі, кіраўніца аб'яднання "Беларускі клуб „Крывічы" ў Іркуцку. Летась упершыню наведала вёску Луг пад Бешанковічамі, адкуль яе прабабка са сваёй маці, братам і сястрой выправіліся па лепшую долю за тысячы кіламетраў углыб Расіі.



Воліны бацькі, малодшыя сястра і два браты як адзін лічаць сябе рускімі. Затое яна мроіць пра тое, каб вярнуцца на гістарычную радзіму продкаў – у Беларусь.

### Ануча стала "тряпкой", а рукавіцы "варежками"

Вольга нарадзілася ў горадзе Ачынск Краснаярскага краю – гэта там нядаўна выбухнуў склад з боепрыпасамі. Школу скончыла ў пасёлку Кутулік побач з Байкалам, паступіла ў педінстытут у Іркуцку, стала магістрам псіхалогіі. Цяпер гэта асноўны занятак, які прыносіць грошы.

"Калі я была малая, жылі аж чатыры пакаленні: мы з сястрой, нашы бацькі, дзед і баба, а яшчэ прадзед, прабабка, яе старэйшая сястра Вольга і малодшы брат Іван, – успамінае Воля. – Дарослыя збіраліся, гаманілі, спявалі. Што там была за гаворка, якія спевы, не прыгадаю: дзяцей да стала не дапускалі, гулялі ў іншым пакоі ці на вуліцы. Але калі пайшла ў школу, мае "рукавіцы" раптам ператварыліся ў "варежки", "ануча" стала "тряпкой", а "добра" настаўніца папраўляла на "хорошо". Якія дзіўныя словы, думала я, бо не сумнявалася, што і так гавару па-руску".

"Няўмеку" хутка перавучылі, і да лінгвістычных загадак яна вярнулася ўжо студэнткай. Першага верасня 2003 года за кампаніяй выпадкова трапіла на сядзібу Іркуцкага таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. Высокі светлавалосы мужчына прывітаў, запытаў, як каго завуць. І ашаламіў маладую наведніцу: "Ну вітаю, Воля!" Так кіраўнік беларускай суполкі Алег Рудакоў змяніў усё наступнае жыццё Вольгі Галанавай.

"Воляй мяне называла толькі прабабуля, таму было дзіўна, што хтосьці назваў гэтаксама, як блізкія людзі. У галаве як быццам шчоўкнула: нешта тут не так. Бо прабабка ўвесь час казала: у Сібіры зімна, няўтульна, нічога не расце – не тое, што "там, у нас". Калі я па-дзіцячы перапытвала, дзе "там", яна толькі адмахвалася, маўляў, далёка ў Расіі... Алег Рудакоў, пабачыўшы маю збянтэжанасць, усміхнуўся: "Воля – гэта па-беларуску". Той асяродак адразу прыйшоўся даспадобы: чытанкі, святы, гульні. І мяне ўсё гэта зацягнула".

### "Чароўны край", дзе немагчыма замерзнуць

Спробы дакапацца да каранёў аказаліся не такімі простымі. Прабабуля Варвара, пакуль была жывая, інтрыгавала таямнічымі гісторыямі пра "чароўны край", лепшы за Сібір, але без асаблівых падрабязнасцяў. Хіба ўрыўкамі пра тое, як хадзіла ў 1-2 клас, як бацька за 60 вёрст ездзіў у царкву асвячаць велікодныя пірагі, як проста пры хаце раслі яблыні, дулі, слівы ды іншая "экзотыка". А галоўнае, што не зімна, бо ўсё жыццё ў Сібіры яна мерзла.

Не падзяляў даследніцкі імпэт дачкі і бацька – маўляў, "не дуры галавы, рускія мы". І толькі летась нечакана "рассакрэціўся". Па-першае, прызнаўся, што ёсць дакументы, з якіх вынікае, што прабабка Варвара яшчэ дзіцем разам са сваёй маці прыехала з Беларусі. Па-другое, ягоны стрыечны дзядзька па старых лістах адшукаў сваякоў у вёсцы Луг побач з Бешанковічамі і нават там пабываў. Пачуўшы такое, Воля не стала адкладаць і рушыла па слядах продкаў.

Як успрынялі наяўнасць крэўных за 6 тысяч кіламетраў ад гістарычнай радзімы беларускія родзічы?

"Я ўжо прыязджала ў Беларусь у складзе гурта "Крывічы", а летась упершыню наведала мясціны сваіх дзядоў, – расказвае Воля. – На жаль, ад хаты, дзе жыла ў маленстве прабабка, нічога не засталося – яна згарэла разам з усімі дакументальнымі рэліквіямі... Сваякі ж аказаліся людзьмі цікаўнымі, цёпла прымалі, пыталіся, як мы там жывём. Яны дагэтуль не разумеюць, чаму родзічы раптам зняліся з месца і паехалі ў Сібір. Хоць выглядае, хтосьці са знаёмых там ужо быў. Нібыта маці прабабкі, даведаўшыся, што даюць зямлю, сабрала дзяцей і паехала".

### Беларускія галінкі генеалагічнага дрэва

Па вяртанні ў Іркуцк Воля Галанава нарэшце зразумела структуру свайго генеалагічнага дрэва.

Яе бешанковіцкі прапрадзед Міхаіл Дарашкевіч пайшоў на Першую сусветную вайну, пакінуўшы дзвюх дачок. Калі вярнуўся, падчас родаў трэцяй дзяўчынкай памерла жонка. Ажаніўся другі раз. Тых дзяцей гадавала бабка, а маладая нарадзіла яму яшчэ траіх – Вольгу, Варвару і Івана. Калі гаспадар адчуў, што нядоўга засталося і яму (на фронце быў атручаны газамі, што моцна падкасіла здароўе), паклікаў старэйшых і сказаў: "Ваша мачаха хоча з'ехаць у Сібір, дык не надумайце за ёй увязацца".

І яны засталіся з бабкай у Лузе. А жанчына неўзабаве пасля смерці мужа сабрала сваіх малых і выправілася ў невядомы свет. Быў 1922 год. Сярэдняй Варвары – будучай прабабцы Волі – на той момант было 8.

"Маці неўзабаве памерла, і малых гадавала Вольга, – працягвае суразмоўца. – Яна так і засталася самотнай. Варвара выйшла замуж за майго прадзеда Івана Галанава, а малодшы брат ажаніўся з дзяўчынай, якая мела бурацкія карані – ну і дзеткі атрымалі адпаведныя рысы. І яшчэ адна загадка. Высветлілася, што прадзед Іван родам з-пад Прапойска на Магілёўшчыне. У дзяцінстве застаўся сіратой, і дзядзька звёз яго разам з дзвюма сваімі дочкамі ў Сібір. Але былі яны не Галанавы, а Патапёнкі. І калі так, дык і я нашу не сваё прозвішча".

У Варвары Дарашкевіч і Івана Галанава нарадзіліся шасцёра дзетак, да сталага ўзросту дажыў толькі адзін – будучы Волін дзед Іван. Апошні, у сваю чаргу, у шлюбе з сібірачкай Марыяй меў ажно 12 дзяцей, выжылі шасцёра. Сярод іх і бацька Волі.

### 17 гадоў лагераў за добрае жыццё

У працэсе сямейнага расследавання Воля Галанава нечакана высветліла, што з'яўляецца праўнучкай "ворагаў народа": у 1939 годзе яе прадзед надоўга апынуўся за кратамі.

"Іван ды Варвара жылі вельмі добра, у іх была вялікая гаспадарка, – кажа яна. – Трымалі багата свіней, кароў, вырошчвалі шмат збожжа. Ну і хтосьці данёс, што, пакуль іншыя пухнуць з голаду, "кулакі" хлебам кормяць скаціну. Так прадзед на 17 гадоў апынуўся за кратамі. Забралі ўсё, нічога не пакінулі. Жонка засталася з малым сынам Іванам, перабіваліся чым маглі. Зрэшты, на гэтым пакуты не скончыліся: у 1943-м на 2 гады пасадзілі Варвару – за ўсё тыя ж "кулацкія грахі". 6-гадовага Івана, які раптам застаўся без бацькоў, даглядала цётка Тацццяна".

Нават калі грымнула вайна і іншых мужчын павальна мабілізавалі, Іван Галанаў працягваў сядзець. Жанчыны працавалі ў тыле. Як успаміналa Варвара Міхайлаўна, пакуль і яна не склала кампанію мужу, у калгасах (прыватнікаў ужо ліквідавалі) засявалі плантацыі канопляў, якая ішла на коўдры для салдат. Вырошчвалі збожжа, гародніну – усё на фронт. Каб неяк выжываць, пасля асноўнай працы прабабка збірала ягады і прадавала на базары. А таксама гнала самагонку – "вадкую валюту" можна было памяняць на хлеб ці малако.

"Усе мужчыны ў нашай сям'і вельмі гаспадарлівыя, – гаворыць Воля Галанава. – Прадзеда не зламала нават турма, ён быў выдатным цесляром, рабіў мэблю, прылады працы. Памёр ужо старым чалавекам у 1996 годзе. А вось дзед пражыў нядоўга – мне было 4 з паловай гады, як яго не стала. Таксама рознабаковы ў талентах: і майстар па дрэве, і на гармоніку граў. А сям'ю карміў з таго, што выдатна арыентаваўся ў тайзе – паляваў, збіраў ягады, лавіў рыбу. І яны абодва, і мой тата, самі ставілі хаты, узводзілі ўсе гаспадарчыя пабудовы".

Прабабка Варвара хоць і напакуталася, але заслужыла доўгае жыццё – памерла ў 90 гадоў. На радзіме ў Беларусі, якую пакінула малой дзяўчынкай, больш так і не пабывала.

### Адна беларуска на рускую сям'ю

Дзеля справядлівасці, адкрыццё беларускага паходжання нікога з нашчадкаў асабліва не ўсхвалявала. Апроч Волі.

"У мяне малодшыя сястра і два браты, – удакладняе яна. – Я не пытаюся, як яны сябе вызначаюць – рускімі ці кімсьці іншым. Хоць з мяне, здараецца, кпяць – "вось нашая беларуска". Ага, кажу, менавіта. Мая сястра і пляменніца захапляюцца беларускімі спевамі, купальскімі скокамі – запрашаю іх на святы, яны апранаюць строі: "Ой, як прыгожа, незвычайна". Але гэтаму трэба прысвячаць час. Спяваць хаця б двойчы на тыдзень, танчыць таксама. Таму ім прыемней проста прыйсці, паглядзець, паслухаць, атрымаць задавальненне з усяго гатовага".

Самой жа Вользе фармальнага падыходу недастаткова. Яна з нуля вывучыла беларускую мову, засвоіла старадаўнія танцы і майстэрства ткацтва, а ейны рэпертуар народных песень вымяраецца дзясяткамі.

Ігар Карней, svaboda.org

Працяг гутаркі чытайце на сайце zbsb.org

асоба

# Алег Трусаў: быць гнуткім і не здрадзіць прынцыпам

65 год адзначыў Алег Трусаў – археолаг, гісторык архітэктуры, былы дэпутат Вярхоўнага Савета і сябра Рады "Бацькаўшчыны", які на працягу многіх гадоў узначальваў Таварыства беларускай мовы, а цяпер выконвае абавязкі рэктара будучага ўніверсітэта імя Гілевіча.

Першы раз яму прапанавалі стаць сябрам КПСС яшчэ ва ўніверсітэце. Падчас працы ў Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрнях Мінкульта БССР (СНРПМ МК БССР) стаць камуністам Трусаву прапанаваў Зянон Пазьняк і аргументаваў гэта так: "Ты павінен уступіць у КПСС і ўзначаліць там абарону Верхняга горада". Было гэта ў 1979 годзе.

## Мсціслаўскія карані

Алег Анатольевіч Трусаў нарадзіўся 7 жніўня 1954 года ў Мсціславе. Калісьці гэта была сталіца адпаведнага княства, якое з часам ператварылася ў ваяводства.

Не аднойчы даводзілася чуць пра рускае паходжанне Трусава. Маўляў, Таварыства беларускай мовы ўзначальвае этнічны рускі. Сапраўды, бацька Алега Анатольевіча – з памораў, нарадзіўся на мяжы Валагодскай і Архангельскай абласцей. А маці са шляхецкага роду Драздоўскіх і Міжэвічаў. Аднак, паколькі яна нарадзілася на Урале, дзе тады працаваў дзед Трусава, ёй у пашпарце напісалі – руская.

Так што Алег Трусаў не толькі этнічны беларус, але і нашчадак беларускай шляхты. Тым больш, што сам ён, хоць і паездзіў па свеце, але доўга за межамі Беларусі ніколі не жыў.

Так атрымалася, што бацькі Трусава разышліся рана. Яму было толькі чатыры з паловай гады, калі хлопчык застаўся ў Мсціславе, на выхаванні ў бабулі і прабабулі. Бацька вярнуўся на Валагодчыну. Больш сын яго ніколі не бачыў і толькі нядаўна даведаўся, што той ужо памёр. Маці з'ехала ў Кобрын, сустракаўся з ёй Алег усяго раз на год.

Прабабуля (1882 года нараджэння) выхоўвала хлопчыка, скажам так, у "дабальшавіцкім духу". Пражыла роўна сто гадоў. Дзякуючы такому выхаванню Алег Трусаў яшчэ ў маленстве вывучыў мсціслаўскі дыялект беларускай мовы і, калі зараз адкрывае слоўнік Насовіча, чытае ў ім словы свайго дзяцінства.

У 1961 годзе Алег Трусаў пайшоў у пабудаваную яго дзедам яшчэ ў 1908 годзе школу (былую гімназію), потым беларускі педтэхнікум, дзе вучыўся Аркадзь Куляшоў і родная бабуля Ганна. На жаль, зараз, нягледзячы на пратэсты, школа гэта ўжо цалкам пераведзена на рускую мову.

Па заканчэнні з залатым медалём школы, Алег у 1971 годзе паступіў на гістарычны факультэт БДУ, маючы перад сабой цвёрда вызначаную мэту – стаць археолагам. Пра гэта ён марыў яшчэ з першага класа, калі яму ўпершыню давялося трапіць на раскопкі. Як быццам бы спецыяльна пад яго мару ў 1973 годзе ў БДУ адкрылі кафедру археалогіі. Трусаў быў яе першым выпускніком у 1976 годзе. Размеркаванне атрымаў у СНРПМ МК БССР, дзе ў 1980 годзе стаў загадчыкам археалагічнага аддзела і прапрацаваў там да 1994-га.

Паралельна Алег вучыўся ў завочнай аспірантуры інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР. У 1981 годзе ў Ленінградзе абараніў кандыдацкую дысертацыю на тэму "Археалагічнае вывучэнне помнікаў манументальнага дойлідства XI–XVII стст. на тэрыторыі Беларусі (метадычныя даследаванні)".

## У публічную палітыку

Палітыкай Алег Трусаў пачаў займацца з 1988 года дзякуючы Міхасю Ткачову. Напярэдадні камандзіроўкі 19 кастрычніка шпацыраваў міма Чырвонага касцёла (тады "Дом кіно") на вакзал, каб купіць білет. Выпадкова сустрэў Ткачова, які прапанаваў зайсці ў гэты будынак. Маўляў, там будзе шмат чаго цікавага, а білет яны купяць пазней. Так Трусаў трапіў у аргкамітэт па стварэнні БНФ, а праз два гады вылучыўся ў дэпутаты Вярхоўнага Савета 12-га склікання. Перамог. Стаў намеснікам старшыні камісіі па адукацыі, культуры і захаванні гістарычнай спадчыны. І быў сярод тых дэпутатаў, хто абвясцілі галадоўку пратэсту ў зале пасяджэнняў ВС.

У сакавіку 1991 года была створана Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада, старшынёй якой абралі Міхася Ткачова, а намеснікам – Алега Трусава. Праз год, пасля заўчаснай смерці Ткачова, Алег Анатольевіч стане на чале партыі і будзе кіраваць ёй да лета 1995 года.

Паралельна з партыямі на хвалі перабудовы пачалі фарміравацца грамадскія арганізацыі. Ці не першай з іх, 28 верасня 1989 года, было афіцыйна зарэгістравана Таварыства беларускай мовы (ТБМ), створанае з ініцыятывы паэта і грамадскага дзеяча Ніла Гілевіча, які і быў абраны яе першым старшынёй. Алег Трусаў сфарміраваў тады суполку ТБМ у Савецкім раёне, якой і кіраваў да красавіка 1997 года, да моманту абрання яго намеснікам старшыні ТБМ – на той час Генадзя Бураўкіна.

У той час, аб чым мала хто ведае, над ТБМ навісла першая пагроза высялення з офіса, што аўтаматычна цягнула за сабой страту рэгістрацыі, а значыць, і магчымасць легальнага існавання, і непазбежнае скарачэння колькасці сябраў, што для такой арганізацыі, як ТБМ, па вызначэнні прызванай на масавы фармат дзейнасці, азначала непазбежнае знікненне з грамадскай арэны. Дарэчы, сітуацыю тую вырашыў тагачасны мэр



Мінска Уладзімір Ярмошын пасля сустрэчы з тагачасным старшынёй ТБМ Генадзем Бураўкіным.

17 красавіка 1999 года на VI з'ездзе ТБМ Алега Трусава па прапанове Генадзя Бураўкіна абралі старшынёй. З гэтага моманту ўсё больш ведаюць Трусава – грамадскага дзеяча, чым Трусава – палітыка.

## ТБМ

Па інерцыі (беларуская мова, бел-чырвона-белы сцяг, "Пагоня") ТБМ успрымаецца як нешта вельмі блізкае да БНФ. На самай жа справе Таварыства беларускай мовы значна шырэйшае за адну плынь. Палітычная прыналежнасць тут не мае ніякага значэння. У склад арганізацыі ўваходзілі ды ўваходзяць і камуністы, і дзеючыя міністры. У новых валанцёраў не пытаюцца ні пра партыйнасць, ні пра нацыянальнасць, ні пра веравызнанне. Крытэрый адзін – любоў да беларускай мовы. Як вядома, нават БНФ не пазбегла расколу. У ТБМ жа за дваццаць год існавання не было ніякіх унутраных сварак, ніякіх расколаў. Бо няма чаго дзяліць. І ёсць за што змагацца – канкрэтнае і духоўнае – за мову.

Дарэчы, палітычныя партыі паважаюць ТБМ, якое сёння налічвае пяць з паловай тысяч сябраў. Лічба для Міністэрства юстыцыі – толькі самыя актыўныя. На самай справе, сябраў значна больш. На думку Алега Трусава, ва ўмовах таталітарнай дзяржавы "трэці сектар" мае больш перспектыў, чым іншыя. І з Трусавым цяжка не пагадзіцца. Што такое польская "Салідарнасць" або літоўскі "Саюдзіс"? Гэта не палітычныя партыі, а тыповыя недзяржаўныя структуры. І БНФ такім быў. Пакуль не стаў партыяй. Самай вялікай памылкай Пазьняка і яго каманды Трусаў лічыць стварэнне партыі БНФ. З гэтага і пачаўся развал. Трэба было спачатку прыйсці да ўлады.

## За мову, за Беларусь!

Калі гутарка ідзе пра ТБМ, без развагаў пра цяперашні стан беларускай мовы абысціся немагчыма. Мабыць, камусьці гэта падасца спрэчным, але Трусаў апошнім часам сцвярджае, што сёння яна "патроху адраджаецца".

Сам ён пачаў размаўляць па-беларуску недзе на пачатку 1980-х гадоў. А першай беларускай кнігай для яго была "Новая зямля" Якуба Коласа, якую яму прэзентавалі на Дзень Савецкай Арміі ў восьмым класе. На беларускую мову Трусаў перайшоў свядома – у знак пратэсту супраць выключэння з БДУ некаторых студэнтаў за "праяўленне нацыяналізму" (а па-сутнасці, за любоў да роднай мовы, да Беларусі). Каб лепш зразумець аргументы Алега Трусава, дазволім сабе адну цытату з яго шматлікіх інтэрв'ю: "Зараз пытанне чыста палітычнае. Трэба дачакацца змены палітычнай улады. Калі прэзідэнт і прэм'ер-міністр загавораць па-беларуску, нават не трэба змяняць заканадаўства. Хай будуць дзве мовы... За два гады большасць людзей пяройдзе на беларускую мову".

У самога Трусава перыяд пераходу на беларускую мову ўклаўся менавіта ў два гады. З 1982 года – паўсюль і з усімі – ён размаўляе выключна па-беларуску. І добра памятае, як да яго ставіліся ў рускамоўным Мінску – лаяліся ў тралейбусах, крамах, патрабавалі "гаварыць нармальна". Сёння сітуацыя змянілася кардынальна. Пачуўшы мову, прапускаюць без чаргі, нават міліцыянты выказваюць павагу, некаторыя таксісты за праезд грошай не бяруць. Яго прапановы перавесці на беларускую мову ўсе дзяржаўныя ўстановы ўжо не выклікаюць з'едлівых усмешак. Сацыялагічнае апытанне, праведзенае нядаўна Беларускім інстытутам стратэгічных даследаванняў сумесна з лабараторыяй "Новак", нечакана пацвердзіла аптымістычнае ўспрыняцце моўнай сітуацыі Алегам Трусавым. 83,7% жыхароў краіны лічаць беларускую мову нацыянальным сімвалам і нацыянальным здабыткам. І каля 50 працэнтаў назвалі людзей, што размаўляюць на мове, элітай нацыі.

**Аляксандр Тамковіч, novychas.by**

**Працяг чытайце на сайце zbsb.org**

**in memoriam**

# ПАМЁР АЎГЕН ГРУША



11 жніўня на 85-м годзе жыцця памёр беларускі грамадскі дзеяч у Аўстраліі Аўген Груша.

Гэта быў вельмі аптымістычны, жыццярадасны чалавек. Ён на 20 гадоў пераджыў сваю жонку Надзею. Выгадаваў трох дзяцей і амаль да апошніх гадоў заставаўся актыўным у беларускай грамадзе Аўстраліі.

Аўген Груша нарадзіўся ў 1935 годзе ў Морачы (сёння Клецкі раён). Падчас Другой сусветнай вайны разам з бацькамі апынуўся ў Нямеччыне. У 1949-м Грушы пераехалі ў Аўстралію. Жыў у Мельбурне. Браў актыўны ўдзел у грамадскім жыцці. Быў актыўным удзельнікам нацыянальных мерапрыемстваў. Адзін з ініцыятараў заснавання другой беларускай школы на пачатку 1970-х гг., для якой прапанаваў уласнае памяшканне. Адзін з ініцыятараў Сустрэч беларусаў Аўстраліі. Ад 1985 г. быў нязменным старшынёй Выканаўчага камітэту Федэральнай рады беларускіх арганізацый у Аўстраліі і адзін з найбольш дзейных сябраў беларускай грамады ў Мельбурне.

**Наталля Гардзіенка, nn.by паводле facebook.com**

# ПАЙШОЎ З ЖЫЦЦЯ ІОСІФ ЦЫРГАНОВІЧ (11.11.1948 – 28.07.2019)



Спадар Іосіф Цырганович стаяў ля вытокаў развіцця беларускага руху ў Латвіі, стварэння таварыства “Прамень” і ансамбля “Надзея”, і да самага апошняга часу з’яўляўся іх адданым удзельнікам, актыўна папулярызуючы беларускую культуру, мову і традыцыі ў Латвіі і Беларусі.

Выказваем спачуванне сям’і, родным і сябрам у сувязі з вялікай стратай. Светлая памяць аб нашым добрым сябры Юзіку назаўсёды захаваецца ў нашых сэрцах.

**Праўленне Саюза беларусаў Латвіі, Праўленне і сябры Рыжскага беларускага таварыства “Прамень”**

# ПАМЁР ЛЕАНІД ДАЙНЕКА



Леанід Мартынавіч Дайнека (нар. 28 студзеня 1940, вёска Змітраўка 2-я Клічаўскага раёну Магілёўскай вобласці – 21 жніўня 2019, Мінск) – беларускі пісьменнік. Лаўрэат Літаратурнай прэміі СП Беларусі імя І. Мележа (1988) за раман “Меч князя Вячкі”, Дзяржаўнай прэміі Беларусі імя К. Каліноўскага (1990) за творы літаратуры і мастацтва для дзяцей – за гістарычныя раманы “Меч князя Вячкі” і “След ваўкалака”.

Скончыў аддзяленне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1967). Працаваў старшым рэдактарам на Віцебскай студыі тэлебачання, на Беларускім тэлебачанні. У 1972–1989 – адказны сакратар часопіса “Маладосць”, з 1989 – загадчык рэдакцыі паэзіі выдавецтва “Мастацкая літаратура”. Сябар Саюза пісьменнікаў з 1970 года.

Першы верш апублікаваў у 1961. Выдаў шэсць кніжак вершаў, зборнік апавяданняў “Бацькава крыніца” (1976) і шэсць раманаў.

З 1993 займаўся прадпрымальніцкай дзейнасцю, заснаваў фірмы “Пасад” і “БелПі”.

**lit-bel.org**

## БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР ПАМЯТНЫХ ДАТ НА ВЕРАСЕНЬ 2019 ГОДА

**1 верасня**
- 80 гадоў таму, у 1939-м, памёр Язэп Горыд, графік, жывапісец.

**2 верасня**
- 85 гадоў таму, у 1934-м, памёр Мікалай Ільяшэвіч, гісторык, географ, педагог.

**3 верасня**
- 125 гадоў таму, у 1894-м, нарадзіўся Уладзімір Хлябцэвіч, удзельнік грамадска-літаратурнага руху пачатку XX ст.

**4 верасня**
- 190 гадоў таму, у 1829-м, нарадзіўся Ігнат Доўнар, удзельнік вызваленчага руху, музыка, фатограф.
- 135 гадоў таму, у 1884-м, нарадзіўся Хведар Імшэнік, літаратуразнавец.

**7 верасня**
- 305 гадоў таму, у 1714-м, нарадзіўся Міхаіл Карыцкі, паэт, грамадскі дзеяч.
- 15 гадоў таму, у 2004-м, памёр Алесь Асташонак, пісьменнік, перакладчык.

**8 верасня**
- Дзень беларускай вайсковай славы

**9 верасня**
- 80 гадоў таму, у 1939-м, нарадзіўся Уладзімір Шурпа, паэт, журналіст, педагог.

**14 верасня**
- 55 гадоў таму, у 1964-м, памёр Язэп Пушча (сапр. Плашчынскі), паэт.

**16 верасня**
- 160 гадоў таму, у 1859-м, нарадзіўся Браніслаў Эпімах-Шыпіла, мовазнавец, літаратуразнавец.

**17 верасня**
- 80 гадоў таму, у 1939-м, адбылося далучэнне Заходняй Беларусі да БССР.
- 70 гадоў таму, у 1949-м, нарадзіўся Генадзь Карпенка, грамадска-палітычны дзеяч, вучоны.

**20 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Базыль Камароўскі, пісьменнік, грамадскі дзеяч эміграцыі ў Нямеччыне і Канадзе.

**21 верасня**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Дзмітрый Касмовіч, дзеяч нацыянальна-вызваленчага руху і эміграцыі ў Бельгіі і Нямеччыне.

**25 верасня**
- 105 гадоў таму, у 1914-м, нарадзіўся Яўген Смаршчок, перакладчык, святар БАПЦ, дзеяч эміграцыі ў Бельгіі.

**27 верасня**
- 110 гадоў таму, у 1909-м, нарадзіўся Лукаш Калюга (сапр. Кастусь Вышына), пісьменнік.

**29 верасня**
- 90 гадоў таму, у 1929-м, памёр Ян Тарчэўскі, грамадскі дзеяч.

**30 верасня**
- 85 гадоў таму, у 1934-м, памёр Мітрафан Доўнар-Запольскі, гісторык, эканаміст.
- 80 гадоў таму, у 1939-м, памёр Стары Улас (сапр. Уладзіслаў Сівы-Сівіцкі), паэт.

**Беларусы ў свеце**
№ 8 (207), жнівень 2019

Інфармацыйны бюлетэнь
МГА “ЗБС “Бацькаўшчына”

Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі.
Меркаванні аўтараў могуць не супадаць з думкай рэдакцыі.

Падрыхтоўка матэрыялаў і вёрстка – С. Кандрацэнка
Адказныя за нумар – Н. Шыдлоўская, А. Макоўская
Наклад 250 асобнікаў

Адрас рэдакцыі:
вул. Кузьмы Чорнага, 31, офіс 906
г. Мінск 220012, Рэспубліка Беларусь
zbsb.org e-mail: zbsb.minsk@gmail.com
тэл./факс (+375 17) 370-10-12